Год І—1912. Кастрычнік. (Акцябр). 7-ая кніжка.




# ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.



Падпісная цэна на 1 год 1 р. 20 кап. на 6 месяцоу 60 кап., за перамену адрэсу 20 кап. Можна падпісацца і аткрыткай, просячы, каб падпісную цэну налажылі на першы высланы нумэр. Рэдакція: **Вільня Завальная 7.**

Абвесткі працоунікоу, шукаючых мейсц у гаспадарках, друкуюцца за 2 маркі па 7 кап., толькі абвестка павінна мець ня больш 20 слоу.

Цэна абвестак за строчку пэтіту у поукалонны: перад тэкстам 40 к., за тэкстам 20 к. За разсылку рэклям пры месячніку вагай да 2 лотоу 7 руб. ад тысячы



**Цэна асобнага нумэру 8 кап., з дастаукай да хаты 10 кап.**

## Прынимаецца падписка на 1913 год.

Годъ I—1912. Кастрычнік (Акцябр). 7-я кніжка.

САХА першы беларускі месячнік сельскай гаспадаркі.



# Новые спосабы сельскай-гаспадаркі ў Беларусі.

Сьвядомы гаспадар Сьвецянск. пав., Віленск. губ. М Яловецкі у „Настольной книгѣ русскаго зимледѣльца" дае дужа цікавую стацьцю аб новых спосабах гаспадараваньня на пясках у Беларусі. Гэта стацьця разбірае сельскую гаспадарку шырока, а дзеля гэтаго звертаем увагу нашых чытачоў на важнасць гэтай стацьці.

Па ўсей Беларусі дзесяткамі тысяч дзесяцін цягнуцца, як змерыць вокам, песчаные абшары, з беднай расьлiннасьцю і прарэзаные чысьленымі тарфянымі, балотамі і сенакосамі. На гэтых не раджайных раўнінах раскіданы чысьленные бедные вёскі і засьценкі. Праежджаючы праз нашу старонку, пабачыце вузкіе шнурочкі селянскіх зямель, засыпаные каменямі і заросшые убогай зеленьню, каторую на першы пагляд нельга назваць якой колечы збажыной. Не маючы сельска-гаспадарскай навукі наш селянін з году на год перэбіваецца, напоўгалодным жыцьцём. Пачарнеўшые, уросшые у зямлю селянскіе будынкі і стады галоднай, недакормленай скаціны, падобнай хучэй на абцягнутые скурай шкілеты, дапаўняюць непрыгляды абраз селянскага жыцьця ў Беларусі. Тымчасам на падобных-жэ землях у суседняй нямеччыне, мы бачым плаваючые ў малаку і мёдзе фэрмы, багатые ураджаі; там сеюць пшаніцу, а бульба падчас дае дзіўные ураджаі.

Кажучы аб палепшэных спосабах палявой гаспадаркі, нельга не ўспамянуць тых абмылак, каторые усюды лежаць у аснове нашаго паляводзтва і бездаходнасьці нашых пешчаных зямель. Наш селянін кіруецца палепшыць гэткіе землі толькі пры помачы хляўнога навозу; на гэта ён трымае, як можна больш, кароў.

На першым мейсцу у нас стаіць мэта дастаць ад скаціны гной: малако-ж і мяса адсуваецца на другі чарод. А дзеля гэтаго глаўны даход, які мы павінны мець са скаціны (за малако, масла, мяса) мы не маем. Значэ скаціоа у нас гэто толькі дарагая машына для вырабу гною.

Большая частка гаспадарак у нашай старонцы, мае больш скаціны, чым можэ пракарміць. Вось дзеля гэтаго у нас вечны недахват пошыру і саўсім малы даход са скаціны. Увесь клопат нашаго селяніна па часці гадоўлі скаціны ў тым, што як

небудзь прадзержаць да вясны скацінку, а там выпусьціць яе на свой промысел, на пакрытае, ня рэдка, ешчэ сьнегам поле. Зімовые галадоўкі чэрадуюцца тут летнімі галадоўкамі для скаціны. На што-ж гэта безканечная галадоўка скаціны?

Толкі дзеля того, каб дабыць ад скаціны патрэбны гной. Праўда, бяз гною абыйсціся нельга, але які ж гной можэ даць галодная скаціна?

Нават пры вялікім чысьле скаціны усё-ж такі гною не хватае, а раскідаць гной гэткім тонкім слоем на такой зямлі як наша, дзе гной трэба класьці тоўстым пластом, нічога не памагае.

На нашых лёгкіх пешчаных землях, каторые ня могуць затрымаць у сабе навозных солей — гной гэты, за колькі тыднёў, над уплывам паветра і вады, раскладаецца, часьцю выветрываецца, часьцю спаласківаецца даждём у глыб зямлі, так што у пахатным слаю астаецца дужа мала не разлажыўшыхса кусочкоў саломы. На „угноенай" гэткім парадкам зямлі наш селянін засевае сваё дабро, снадзяючыся на ураджай ён дармо затрачывае увесь запас свайго корму, усе свае лішніе капейкі, усе свае сілы, каторые бязсьледна прападаюць у ненасытным пяску.

Кажу ізноў: гной мае вялікае значэньне на палі і аплачываецца толькі тады, калі мы можэм мець яго са сваей гаспадаркі дармо. А у нас гной гэты каштуе і каштуе гэтак дорага, што растрачываць яго абы як і стратна і грэшна. Гадоўля скаціны на нашых убогіх пешчаных землях, як спосаб дабыць гной, адбірае дармо у нас працу і грошы. Скаціна павінна нам даваць малако, масла, мяса, а гной павінен нам аставацца дармо, за салому і працу. Толькі тады, калі у нас будзе годзі корму для скаціны; калі ня будзем жыць толькі неякімі надзеямі ня вялікі запас гною, на вялікі ураджай,—мы выбьемся на больш простую дарогу, па каторай, ужо сотня гадоў, ідзе да багацьця і культуры суседняя нам нямеччына.

Што-ж магло-б паправіць пешчаную зямлю і ў той самы час даць многа корму гаспадарцы. Навука і практыка кажэ: гарошкавые расліны (лубін, сэрадэля, канюшына, віка, і гарохпалюшка). Гарошкавые расьліны, пры помачы жывучек, зьбіраюць с паветра азот. Апрача азоту гарошкавые расьліны сваімі доўгімі і крэпкімі карэнямі глыбока пранікаюць у зямлю і звязываюць рыхлы пясок. Звязаная гэткім парадкам пешчаная земля ужо затрымывае ваду, не так крэпка нагрэваецца летам і не так прамерзае зімой.

Каб паказаць на сколькі больш карысцен зялёны навоз, чым гной с хлявоў М. Яловецкі гэтак вылічае. Скажем, адна селянская карова, вагой 15 пудоў будзе стаяць ад 15 кастрычніка да 15 красавіка, гэта значыць 195 дней, у хлеві. Сярэдняя кармавая норма, залічаючы сюды падсцілку, у селян-

скай гаспадарцы будзе: сена 10 ф., ярай саломы 15 ф., аржаной саломы 10 ф. Праз 195 дней гэто будзе:

| | |
|---|---|
| сена 50 пуд. па 35 кап. . . . | 17 р. 50 к. |
| ярай саломы 75 п. па 20 к. . | 15 „ — „ |
| бульбы 25 пуд. . . . . . . . | 3 „ 95 „ |
| аржанойй саломы 50 пуд. . . | 14 „ — „ |
| Усяго . . . . | 50 р. 45 к. |

Калі адлічыць ад гэтаго вартасць малака (50 пуд. па 50 кап. за пуд) — 25 руб. і 3 руб. за цялёнка, то гной абходзіцца гаспадару 20—25 руб.

Вага гною ад аднэй каровы 300—320 пуд. Канечна патрэбные 1000 пудоў гною на дзесяціну абходзіцца нашаму селяніну каля 70 рублёў.

Паглядзім цяпер, сколькі абойдзецца дзесяціна занятаго пад лубін папару.

| | |
|---|---|
| Насеньне лубіну 15 п. па 75 к. . . . . . | 10 р. 50 к. |
| Калійнай солі 30% 2 мяшкі па 4 р. 35 к. | 8 „ 70 „ |
| Томасшляку 16% 4 машкі па 2 р. 40 к | 9 „ 60 „ |
| Усяго . . . . . | 28 р. 80 к. |

Сярэдні ураджай лубіну дае каля 1.500 пудоў зялёнай массы (лічучы і кареньня) з дзесяціны. Мінэральных частак будзе тут шмат больш %чым ад звычайнаго гною (меней-болей на $1^1/_2$ раза). Страта на гнаю ясная (70 руб. гной, а 28 р. 80 к. зялёны навоз).

З гарошкавых расьлін лепей за ўсё зьбіраючых азот, першае мейсцо займае лубін: сіні лубін, жоўты лубін, белы лубін, лубін многалетні. Для нашай беларускай старонкі найбольш падходзіць сіні лубін. Гэты сіні лубін хаця дае менш зялёнай массы, чым жоўты, але затое дае больш азоту, мае больш развітые карэньня і больш вынoсьлівы на благую зямлю і клімат. Апрача таго сіні лубін мірыцца с тым калі ў зямлі бывае вапна, тады калі жоўты лубін ад вапны прападае. (Усё-ж такі радзім на саўсім пешчаных землях побоч с сінім лубінам сеяць і жоўты, каб праверыць каторы лепей удасцца).

Чароднай раслінай пасьля лубіну, каторая мае вельмі важнае значэньне для гаспадаракі с песчанымі землямі, будзе сэрадэля. Апрача таго, што сэрадэля. узбагачывае зямлю азотам яна ешчэ дае найбольш, з усіх пасеўных траў пажыўнаго, смачнаго сена і багатае бялком зярно.

У канцы, як ужо было вышэй сказана, да чысла азотазбірацельных трэба прылічыць канюшыну, гарох-пялюшку, віку, боб і др. Увясьці гэтые расьліны у правільны пладазмен і павінно быць глаўнай задачай гаспадара на пешчаных землях. У нас на Беларусі гарошкавые расьліны павінны высевацца: перш-наперш на папарным полі (лубін), пасьля, разам з другімі расьлінамі (сэрадэля, канюшына).

Асновай пладазмену на убогіх пешчаных землях павінна

быць, засеяны лубінам папар. Поле пад пасеў лубіну павінно быць выроблена акуратна, каб на ім не было пырніку і зеліва. Толькі на добра выробленай і чыстай зямле лубін забеспечывае ураджай коласных раслін. Штучные навозы пад лубін высеваюцца гэтак: 12 пуд. (2 мяшкі) 30% калійнай солі і 24 пуды (4 мяшкі) томасшляку на дзесяціну,

Штучные навозы радзяць высеваць ешчэ з восені. Высеваюць лубіну на зялёны назоз у нас у пачатку другой палавіны мая. Насеньня трэба на дзесяціну ад 15 да 18 пудоў

С пасевам лубіну ня трэба зацягіваць да канца мая, бо тады лішне позна прыдзецца заорываць лубін. Трэба прыняць рэгулу заорываць лубін, прынаймні, за 3—4 тыдні да пасеву жыта. Зялёные навозы, у тым чысьле і лубін трэба заорываць уважаючы каб ня лішне глыбока. Глыбокае заорываньне дрэнна тым, што лубін не так скора перэгнівае у зямлі. Многа гаспадароў жаляцца на тое, што цяжка заорываць лубін. Каб добра прыкрыць лубін варта карыстацца перш бараной. Пускаючы барану па лубіне перэд араньнем плугам, мы расчэсынават найболш паблутаные каліві і гэтым памагаем таму, што пасьля плуг шчыльна прыкрывае лубін зямлёй.

Каб больш выкарыстаць заняты пад лубін папар, радзім высеваць у лубін каля 3 пудоў на дзесяціну вікі, гароху і гарчыцы.

За два тыдні перэд заорываньнем, засеянаго гэткай мешаннай папару, выганяюць скаціну, каторая выедае да чыста ня толькі пасеяную вікавую мешанку, але і ўсе травы. У сьлед, пасьля высеву жыта трэба поле прыкачаць цяжкім жалезным валам: гэто так патрэбная работа, што упускаць яе ніколі нятрэба. Рыхлая, не прыкачаная земля, гэто адна з глаўных прычын што жыта вымерзае.

Апрача коласных расьлін, лубін служыць вельмі добрым навозам пад бульбу. У пладазмене бульба ідзе зазвычай пасьля насеннаго лубіну. Лубін, назначэны на семя, сеюць як можна раней; радавы пасеў (фабрычнай севалкай) дае дзіўные рэзультаты. Збор лубіну у больш халодных часцях Беларусі адбываецца, або абрываньнем сьпелых струкоў, або жнуць серпамі і жніяркамі. У першым выпадку астаецца сухое быльлё лубіна каторае укачываюць і заорываюць, у другім прыпадку лубінавую салому вывозяць вясной, разсцілаюць і заорываюць разам с пасадкай бульбы. Ураджай бульбы пасьля лубіну бывае добры і на найбольш пустых землях: сярэднім кала 700 пудоў з дзесяціны.

Сэрадэля займае, або асобнае мейсцо у плодазьмене, або высеваецца пад прыкрыцьцем якой расьніны. Сэрадэля не глядзя на тое, што мае багатае карэньне, развіваецца памалу; дзеля гэтаго земля, назначэная на высеў сэрадэлі павінна быць добра выроблена і саўсім чыста ад пырніку і другога зела. Высеваецца каля $2^1/_2$ пудоў насеньня сэрадэлі на дзесяціну. Калі сеем пад прыкрыцьцем сэрадэлю, то лепей для гэтаго карыстацца аўсом, ці ячмянём, чым жытам, бо ў жыце сэра-

дэля часам саўсім прападае. Найлепшым навозам пад сэрадэлю лічыцца калійная соль, каторая пры высеве 12 пудоў на дзесяціну вельмі ўзбагачывае зямлю азотам і дае багаты укос сена і зерна.

Што датычэ пасеву канюшыны на пешчаных землях, то ураджай яе саўсім залежыць ад падсеву калійных і фосфорных навозоў. Калійная 30% соль ў чысле 12 пуд. і тамасшляк ў чысьле 24 пудоў на дзесяціну могуць забеспечыць саўсім добры ураджай канюшыны, нават на пустых пешчаных землях. На гэткіх землях касіць канюшыну можна толькі адзін год. Многалетніе укосы — гэта толькі абман, просты само-абман, каторы вядзе толькі да разрыцьця усяго плодазмену і да бескарыснаго перакідываньня зямлі. Купляючы штучные навозы пад канюшыну трэба памятаць, што дзействуюць яны 2—3 гады, паднімаючы пасьля ураджаі жыта і бульбы.

Пытаньне аб расьлінах на прыкрыцьце канюшыны ешчэ дагэтуль не разгадана, аднак, пішэ, М. Яловецкі,—я склонен да пасеву канюшыны у ярыне, дзеля таго, што зярно прыкрываецца лёгкай дэўнянай бараной і лягчэй пераносіць, звычайную у нас на Беларусі веснавую посуш.

Трэба памятаць, што у нас на песках, авёс высеваць лепей ў мешанцы з гарохам і ячмянём і ніколі ня сеяць на тым полі, дзе перад гэтым была бульба. Гной у нас трэба вывазіць толькі пад бульбу, а не пад коласавае збожжэ, як гэта усюды цяпер вядзецца па нашых селянскіх гаспадарках.

Німа расьліны, спасобнай у такой меры выкарыстаць гной на песках, як бульба.

Трэба прызнаць за вялікую абмылку калі кладуць поўнае навознае удабрэньне пад вікавую кармавую мешанку, сеяную на папарным полі. Пад вікавую мешанку трэба класці 1/4 паўнаго навознаго удабрэньня, а рэшту пасьля.

Самы просты спасаб пасеву лубіну у селянскіх гаспадарках на Беларусі, гэта выдзел асобных, найбольш бедных палеткоў пад пасеў лубіну і жыта.

Спосаб гэты М. Яловецкі бачый у в. Трынкуны, Віл. губ. дзе селяне згаварыліся устроіць двухпольны плодазьмен на асобным кавалку зямлі. Гэткім парадкам там было два пладазьмены.

| Год | Трохпольны плодазьмен | | | Двухпольны плодазьмен | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1906 | папар | ярына | азіміна | лубін | азіміна |
| 1907 | азіміна | папар | ярына | азіміна | лубін |
| 1908 | ярына | азіміна | папар | лубін | азіміна |

Пры выдзеленьні большаго на абшар кавалка зямлі (калі напр. большая палавіна зямлі, або пустуе, або ня гноіцца) устраіваюць два паралельные трохпольлі—адно з гноем, другое з зялёнымі навозамі.

| Год | С чорным папарам | | | З зялёным папарам | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1906 | папар | ярына | азіміна | лубін | бульба | азіміна |
| 1907 | азіміна | папар | ярына | азіміна | лубін | бульба |
| 1908 | ярына | азіміна | папар | бульба | азіміна | лубин |

Для лепшаго выкарыстаньня трохпольля з зялёным папарам у жыта падсеваюць сэрадэлю, каторую, або скармліваюць восеньню скаціне, або зялёную масу заорываюць пад бульбу. Тады плодазмен будзе гэткі:

| I | II | III |
|---|---|---|
| Папар засеяны лубінам | жыта с падсеянай сэрадэляй 80 ф. на дес. | Бульба і авёс |

Штучные навозы найчасцей падсеваюцца гэткім парадкам:

I. Папар з зялёным лубінам (3 мяшкі томасшляку і 2 мяшкі 3°|₀ калійнай солі).
II. Азімае жыта (2 мяшкі томасшляку і падсеваюць 80 ф. сэрадэлі на дзесяціну).
III. Бульба (1 мяшок калійнай солі).

Пры меншым пасеві азіміны, што бывае у больш камяністых мейсцах, у каторых азіміна баіцца сьнягоў, ужываецца 4-х польны пладазьмен без канюшыны, бывае гэтакі:

I. Лубін на зялёны навоз (фосфорные і калійные навозы).
II. Жыта.
III. Лубін на семя (фосфорные і калійные навозы),
IV. Ярына.

Тут трэба памятаць, што у апошніе часы, пачалі карыстацца зярном лубіну на корм коням і каровам. На галаву даюць ня больш 4—5 фунтоў у дзень, зярно лубіну павінно быць вымочэна, каб не было горкім.

Пры пасеві канюшыны чатырохпольны плодазьмен будзе гэтак выглядаць:

I. Лубін на зял. навоз (фосфорные і калійные навозы).
II. Жыта (с падсевам канюшыны).
III. Канюшына с падсевам штучных навозоў).
IV. Ярына.

Тое, што цяпер у нас стаіць нізка сельская гаспадарка не павінно пужаць нашых хлебаробоў. Развіцьце агрономічэскай навукі ідзе шпарка наперад; шмат чаго, што перш лічылося немажлівым, цяпер тое робіцца перэд нашымі вачамі; у нашы часы пяскі усё больш і больш перэменяюцца у культурные і ураджайные землі. У акружаючым нас паветры, дзякуючы навучным аткрыцьцям і практыцы, мы знайшлі бяздонную крыніцу, найбольш цэннаго навозу — азоту.

С таго часу песчаные землі пераходзяць у чысло ураджайных зямель.

Пры развіцьці сельска-гаспадарскай навукі і нашы беларускіе песчаные пустыні пакрыюцца буйнымі ураджаямі і цьвітучымі багатымі хутарамі.

**М. Б.**

---

# Сельска-гаспадарскіе кружкі.

Узаемная памач у сельскай гаспадарцы — гэта нічым незамянімы спосаб падняцьця гаспадаркі для паадзінокіх гаспадароў. Ці будзе селенін жыць на хутары, ці астанецца у сяле — ён павінен перш за ўсё помніць, што сіла у еднасьці, што толькі злучыўшыся з другімі такімі-ж селянамі — хлебаробамі для працы, каторая будзе карысна ня толькі кожнаму з асобна, але і ўсім разам, гаспадар будзе с карысьцю працаваць над падняцьцемі сваей гаспадаркі. што хаўрусам можна шмат што зрабіць, што не пад сілу і багатаму гаспадару. Ці завясьці якую машыну, ці купіць лепшаго і дзешавей тавару, прадаць нешта лепей і т. д. усё гэта лягчэй зрабіць хаўрусам.

Заграніцай селяне даўно ўжо зразумелі карысць хаўруснай працы, і заграпічные гасударствы пакрыты густой сеткай таварыств ўзаемнай помачы і хаўрусамі, дзе праводзіцца думка, каб кожны працаваў для агульнай карысьці і гэтак працуючы багацеюць усе разам.

Нашым селянам трэба бліжэй пазнаёміцца з асновамі арганізаціі і рэзультатамі працы гэткіх хаўрусоў ды старацца перэняць тое добрае, што выпрабіла практыка такіх-жэ селян—хлебаробоў у чужых краёх.

Сёлета з многа якіх губэрній Расеі пасылалі селян у Данію (маленькае гасударство за нямеччынай) каб агледзілі тамшэйшые дробные гаспадаркі. Яны маглі на свае вочы перэканацца, што дацкі селянін жыве куды лепей за нашаго селяніна, і не павінны забывацца, што гэтае лепшае жыцьцё сваё здабылі яны хаўруснымі сіламі—грамадай.

У Даніі німа ніводнай часткі сельскай гаспадаркі, каторая не абслужывалася-б рознымі таварыствамі.

У гадоўлі кароў, напыклад, ёсць таварыствы для гадоўлі быкоў на племя, асобные таварыствы для праверкі малочнасьці кароў, тлустасьці малака, проб які корм трэба даваць каровам; масла выпрабляцца у хаўрусных маслярнях, прадажай масла займаюцца ізноў-такі асобные таварыствы. Дзякуючы гэткай арганізаціі, дацкае масла лічыцца найлепшым на сьвеці. Падобные товарыствы у Даніі займаюцца прадажай яек. Сельска-гаспадарскіе товарыствы займаюцца там закупкай штучных навозоў (попелоў) машын, закупкай харчэвых тавароў.

Нашы селяе па крысе пачынаюць разумець карысць хаўруснай працы, і за апошніе часы сталі часьцей аткрываць сельска-гаспадарскіе, харчавые, пазычковые хаўрусы, але на агул іх ешчэ лішне мала для таго, каб зрабіць сколкі небудзь заметную перамену у жыцьці нашай вёскі.

Побач апісаных вышэй хаўрусоў у Даніі павінны нас зацікавіць сельска-гаспадарскіе кружкі, якіе паатрываліся гадоў два таму у вітэбскай губэрні.

Гэта тып організацій, якіе развіты паміж селян у Галічыне (Аўстрія) і у Пазнаншчыне (Немеччына) і ён найбольш падходзіць да варункоў нашай селянскай гаспадаркі і, мабыць гэтым сельска-гаспадарскім кружкам суджэна у нас шырока развіцца.

Аткрываць сельска-гаспадарскіе кружкі пазволена Таварыству вітэбскіх сельскіх-гаспадароў у акцябры 1906 г., паводле зацьверджэнай уставы.

Членамі кружка могуць быць поўналетніе асобы, як мужчыны так і кабеты. Прынімаюцца новые члены па рэкомэндаціі двох членоў. Мэта кружка перэчысляецца ў першым параграфе уставы вось гэтак:

„Кружок мае за мэту падняць сельскае гаспадарство ва ўсіх кірунках. Каб дайсці гэтай мэты кружок на сваіх сабраньнях агульна і пры помачы практычных асоб дае рады усім членам на розные пытаньня па сельскай гаспадарцы, знаёміць іх з лепшымі прыладамі да выробу зямлі, дае рады як устроіць гаспадарку, завясьці пладазмен, купляць лепшае насеньне, штучные навозы і на завод скаціну, вышуківае пазычкі і наагул працуе над падняцьцем зямлі і гаспадаркі.

Апрача таго кружок ставіць сабе мэту шырыць селска-

гаспадрскую навуку, змагацца с пьянствам, асабліва у часе выбароў і судоў.

Дяя нагляднаго паказу карысьці і патрэбнасьці падняць цяперэшнюю гаспадарку, кружок устраівае паказные палі, робіць агляд лепшых гаспадарак і пробы розных машын і насеньня, а такжэ арганізуе мейсцовые выстаўкі — кірмашы.

Кружок памагае аткрываць крамы для гуртовых закупак розных патрэбных у гаспадарцы рэчэй, а так сама арганізуе агульну прадажу гаспадрскіх прадуктоў".

Гэткім парадкам паводле уставы работа сельска-гаспадарскаго кружка можэ быць шырокай і карыснай і абнімаць усе патрэбы сельскай гаспадаркі.

С павіннасцей членоў кружка адмецім акуратнасць плаціць гадавую складку, ня менш 30 кап., за месяц у перад, а справоў якіе мае кожны член кружка — права аткрываць падпіскі на дабравольные ахвяры для аткрыцьця паказных гаспадарак, пробных палёў, пастаянных і перавозных выставак, складоў прылад, машын і насеньня, і чытаць лекціі па сельскай гаспадарцы.

Мяркуючы с таго, што пішуць газэты, сельска-гаспадарскіе кружкі у Вітэбскай губэрні расшыраюцца, і гэтай восені яны устроілі у сваей губэрні каля 17 сельска-гаспадарскіх выставак.

Практыка сельска-гаспадарскіх кружкоў у Галічыні і Познашчыні за 30 гадоў іхняго жыцьдя паказала, як гэты эрганізаціі карысны і як яны могуць хутка падняць сельскую гаспадарку.

Карыстаючыся кніжкай С. Голынскай „Таварыствы для падняцьця сельскай гаспадаркі у разных краёх" мы скажем колькі слоў аб сельска-гаспадарскіх кружках у тых старонках.

У Галічыне сельска-гаспадарскіе кружкі знаходзяцца пад кірункам главнаго выбранаго упраўленя; усяго кружкоў ёсць 898 яны злучылі больш 40 тысяч гаспадароў. Мэта кружкоў падняць сельскую-гаспадарку, шырыць навуку аб сельскай гаспадарцы, і развіваць духа ўзаемнай помачы і хаўруснай працы.

Кожны кружок перш за ўсё дастае ад главнай упавы маленькую бібліотэчку с 40 кніжак; апрача таго, ён павінен выпісываць газэту каторую выдае хаўрус сельска гаспадарскіх кружкоў. Работа кружкоў ўсестаронная. Яны выпісываюць насеньне, навозы, машыны, памагаюць закладаць сады, гаспадаркі, будоўлі, закладаюць хаўрусные крамы; іншые кружкі маюць склады збожжа, паказные гаспадаркі, пекарні, банчкі.

У многа якіх вёсках маюць кружкі свае дамы для сабраній і чытальні. У інных вёсках сельска-гаспадарскіе кружкі устраіваюць хоры, аркестры, тэатры.

Аднаго гэтаго пераличываньня работ кружкоў годзі на тое, каб бачыць як яны ўсестароннa працуюць і як павінны ўплываць на падняцьце добрабыту і асьветы паміж селян.

У Познані у 1902 гаду было 244 сельска-гаспадарскіе кружкі з 10 тысячамі членоў і праца іх аказалася ня менш карысная як і ў Галічыне.

На сабраньнях кружкоў гаворыцца толькі аб селянскіх гаспадарках, членам кружка напамінаецца, што яны павінна робіць у сваей гаспадарцы, знаёмяцца з новымі спосабамі гаспадаркі, з новымі машынамі і інш. Трэба спадзевацца, што і кружкі вітэбскай губэрні пойдуць сьледам сваіх старэйшых сяброў і паслужаць за прыклад дла другіх губэрній.

**Беларус.**

---

# Абработка пожні.

Можэ не адзін гаспадар здзівіцца гэтым пачаткам: „абработка пожні“ і пэўне падумае сабе: што ён там бае пра неякусь абработку. Ці-ж не праўда, што мы нават ніколі кратавін з вясны на полі не разгрэбаем, бо і нащтож раскідаць, калі іх крот панаточываў?

Кожды, злашча старэйшы гаспадар памятае, што даўней сям-там бывала гэткая трава, што чэлавек чуць у ей не хаваўся. Прайшлі гады, дый тая трава змалела у пояс, а сягоньня — хваліць Бога, калі яна дзе дастае па калені — а то і таго німа.

Сам сябе паняволі пытаеш, чаму гэта так, чаму то трава з году на год малее? Атказ на гэта кароткі: бо нашы пожні саўсім ужо спусткаваліся, а за гадоў 10 палавіна нашых цяперэшніх пожэнь дасць благую толькі пашу на мейсцы, бо ужо касіць саўсім ня будзе чаго, калі ня возьмемся іх ратаваць.

Дзіця нават ведае, што калі поле не прагноіш, ці то гноем, ці лубінам — то земля перэстае радзіць і ў канцы не аплаціць паложэнай працы. Гэтак сама ёсць і з нашымі пожнямі: траву с пожэнь збіраем, а ніколі іх ня гноем, а калі што зробім, то... барждзжэй на іх крыўду. Ці-ж ня крыўдуем пожні, калі у восень, сабраўшы сена, ня гледзячы на тое, што яны мокры, пасьвім па іх скаціну, каторая западае на калені, убівае глыбока дзярно і прытаптаўшы яго не дапускае паветра да карэньнёў расьлін. І гэтак памагаем пожням часта аж да самых марозоў.

Ёсць у нас тры гатункі пожнёў: добрые, сярэдніе і благіе. Добрымі называюць гэткіе, каторые на агул бываюць не залішне мокрые і не залішне сухіе, каторые бываюць заліваны разлівам рэк, ці лежаць каля падножа палёў і родзяць найбольш салодкіе травы, с каторых маем найлепшае сена. Сярэдніе пожні гэтак сама бываюць найбольш заліўные, такіж ад натуры яны макраватые, заросшые мохам ды і родзяць чуць не самы лопухь (calta palustris) і іншые кіслые травы, с каторых

сабіраецца горшае сена. Благімі пожнямі называем гэткіе, каторые лішне нізка паложэны - балотные (дзе расьце бабок, елка, сітнік і інш.), або гэткіе, што будучы ізноў высока положэны на зямлі пешчанай бываюць лішве сухімі і родзяць гэтак сама благіе травы („козію бародку“—сьвінуху і інш). Гэткіе пожні найлепш будзе заараць дый замяніць на поле. Калі даецца асушыць, то балоцістые пожні можна замяніць у сярэдніе, такі-ж саўсім добрых пожнёў з іх ня зробіш.

Першы варунак обработкі лішне мокрых пожэнь, гэто асушка іх равамі, каторые спусьцілі бы ваду. Акуратна гэта зрабіць можна толькі пры помачы зямельных памероў (нівэляціі), а работу гэту зрабіць патрапіць толькі умелы землямер. Можна сяк-так зрабіць гэта і на вока, тагды, як пасьля вялікаго дождржу запрымечаць ямачкі у каторых вада затрымалася. Равы робяць, каб адвясьці ваду і закрытые: кладуць у іх на спод хвораст, груз, або гліняные трубы, так званые „дрэны“, па каторых ешчэ лепш сцекае вада. Груз гэты, хвораст, ці дрэны засыпаюць на гладка зямлёй, так што равы ня робяць ніякай застаноўкі пры рабоце на пожнях — так, як гэта бывае пры аткрытых равах. Праўда, што гэты спосаб дрэнаваньне, дорага абходзіцца, бо каля ста рублёў з дзесяціны, але ён варочае затрачэные грошы на яго у колькі гадоў. Трэба ведаць, што гэтые дрэны, апроч асушэньня, маюць і іншае значэньне: яны памагаюць да добраго праветрываньня зямлі. Варта успамянуць, што у апошніе гады, казна досыць ахвотна выдае пазычкі на дрэнаваньне, што пазваляе і людзям не багатым карыстаць з асушкі зямлі пры помачы дрэноў.

На пожні асушэнай, але не надта высушэнай, трэба старацца выгубіць мох, каторы не дае разрастацца траве, душыць маладую порасць у завязку, ад'едае ім корм і не дапускае паветра у зямлю. А трэба памятаць, што земля наша, не раўняючы, як чэлавек, як усякая жывіна — патрабуе павётра, каб магчы аддыхаць, каб распускаць розные кормы, што ёсць у зямлі, каб маглі жыць у ей розные жывучкі, так званые „мікробы“, або „бактэрыі“, без каторых ніводна расьліна, як цяпер пераканаліся, ня можэ жыць.

Ральля збітая ад дажджу, ці пожня ніколі ня рыхленая па верху, цярпіць гэткіе самое мукі, як чэлавек, катораму нос і губу завяжуць хусткаю. Ведама, што і праз хустку праходзіць паветрэ, дык і чэлавек саўсім не задушыцца, толькі, як гэта добра, ніхай кожны папрабуе, каб ведаў, як цярпіць расьлінасць на пожні калі па верху доўга нічым не паверушыш.

Найперш выгубляюць мох на пожнях і раздзіраюць верхняе дзярно бараной, да каторай на канцы зубоў прыкручываюць густые трохзубовые вілачкі, асобна да гэтаго выробляные і прадаваные. Есць і асобные бароны да выдзіркі пожнёў, з доўгімі вострымі зубьямі,—а немаючы гэтых—можна баранаваць і звычайнымі жалезнымі баронамі, хоць гэта работа ня будзе так акуратна.

Каб выдзерці мох, на малым кавалку, то годзі і адных

жалезных грабель. Баранавацъ пожню трэба ўздоўж і ўпоперак, а лепш ешчэ і наўскос. Баранавацъ трэба прынамсі раз у год, а ешчэ лепш вясной і ў восень, толькі баранавацъ трэба тады калі пожні сухіе, або калі не саўсім размерзшы вясной.

Такі-ж адным баранаваньнем пожні не здаволіш, гэта толькі трэця, а нават чацьвёрта часць усей работы. На тое, каб радзіць праз многа лет траву, высілілася усяка пожня не мала, іначэй кажучы выялавела і выялавелася-б да шчэнту, каб яе хоць крышку не падкармілі: ці то рэчные разлівы, ці то іншая вада, с каторай сплывае трошкі корму, які аседае на полях. Чыстаго гною не варт даваць на пожні, бо гэта дорага абходзіцца, дык німа рашчоту; куды выгадней пасыпаць кампостам. Калі пожня макравата, добра спамагчы яе вапнам не гашэным. А найбольшую карысць дае штучны навоз (попелы): каініт і томасшляк. Травы пасьля штучных навозоў перэменяюцца, а павялічэны пакос сена можэ вярнуць усе расходы на гэты штучны навоз—зара у першым гаду, с першаго пакосу.

Раю кожнаму ад сэрца зрабіць пробу на ўласнай зямлі, хоць-бы на малым кавалку поля. Нідзе так не аплачываецца гэтак штучны навоз, як на пожнях — гэта ужо добра ведама тым, што рабілі пробы. Разсевацъ штучные навозы найлепей у восень. Трэба ешчэ успамянуць, што дужа палепшыць сабе гатунак сена і павялічыць укос яго той, хто падсее свае пожні мешанкай лепшых траў, напрыклад: канюшынай, райграсам, мятліцай і другімі.

**Юлька з Моладава.**

---

# Торф нашэ багацьце.

Німа такога кутка на нашай Беларусі дзе—бы не знайшлося торфу — бывае ён глыбей, або плыцей у зямлі, бывае чорны, або руды, то валакністы, то сыпучы, але трохі што ня ўсюды торф найдзецца.

Торф мае вялікае значэньне у нашай гаспадарцы, бо ён годзен ня толькі як гной на зямлю, але і на апал. Торф найлепш капаць у познуюю восень калі ужо свабадней у гаспадарцы. Выкідаючі торф з ямы трэба сыпаць яго у невялікіе капцы, каб торф аткіс, праветрыўся і абсох, гэтак у капцах павінен торф лежаць год. Калі торф ужо перагніў і прасох, дык можна яго вазіць у двор пад паветку.

Сухім торфам трэба пасыпаць гной у хлеві і прыкрываць яго саломай, такім спосабам прыбудзе гною і акром таго гной будзе лепшы, бо торф забірае у сябе увесь мацунак з гною. Сухі торф надта прыгодзен да кампостоў: німа лепшаго гною на нашы сады і агароды, як кампост с торфу. Кампост с торфу робіцца так: торф кладуць у вал вышынёй 2 аршыны, шырыней 3 арш. Перекладаюць яго саломай і пасыпаюць вапнай. Торф

у валох павінен лежаць цэлы год, толькі трэба яго перакінуць лапатамі разоў тры, каб торф добра пэрэрабіўся. Воз такога кампосту больш варт, як дзесяць вазоў гною с пад кепска кормленых гавяд (скаціны). У тарфяны кампост ешчэ лепш дабавіць трохі попелу, сьмецьця, сажы і друіх адпадкоў ад гаспадаркі. Тарфяны кампост надта прыгодны у ямкі пад прышчэпы, так пасаджэны садок расьце надта скора і дае добрые фрукты. Варыва на кампостах расьце надта сільна і не баіцпа засухі.

Торф валакністы на апал прыгатаўляцца так: вырэзаюць с торфу цэглінкі, кладуць на два дні плазам, потым стаўляюць на два дні па кант, калі ўжо цэглінкі добра абсохлі, дык складаюць іх у клетку каб вецер праходзіў скрозь зложэны торф, гэтак прасушэны торф можна ужо вазіць у двор і хаваць у будыніну. Сухі торф гарыць добра і толькі патрэбны трэскі на падпалку.

Наш хлебароб траціць многа часу і грошы едучы за сьвет па дровы, а торф пад бокам, толькі трэба дагадацца і трохі пакалыпаць у зямлі.

**Юрка Бусел с пад Слуцка.**

---

# Колька.

Колька — боль у жываце бывае ад перакормленя, камянёў калі конь зьесць з вотрынай, чэрвякоў, а часам і с таго, што кішкі перэкруціліся або заціснуліся. Хворы конь неспакойны—агледаецца на жывот, б'е нагамі, кладзецца, устае, качаецца, іншым разам стогне, ня хочэ ні есць, ні піць — у жываце не бурчыць. Калу і мочы аддаць ня можэ. Конь пацеевушы то гарачы, то зузім халодны.

Хвароба ня доўга трывае—часам 2—3 гадзіны, рэдка ноч і дзень, а 3 — 5 дзён толькі калі аб'есцца канюшыны і посьле таго часу найчасьцей лопаецца трыбух.

Лечыць каня трэба адразу. Паставіць яго у цёплую, сухую праварыну, каб не на правеве. Расціраць бакі і жывот саломай пакуль не разагрэецца. Калі конь моцна на нагах стаіць вадзіць ступой, каб крыху упрэў, толькі асьцярожна. Калі не паможэ даць леватыву с цёплай вады, якое $1/2$ ведра, распусьціўшы у ей крыху мыла і уліўшы ільнянаго алею, або рыцыны, якую шклянку.

Напарыць румянку і уліць у горла якіе 3 кварты. Добра такжэ сама даць выпіць які фунт алею. Іншые даюць гляўбэрскую соль (1 фунт), але з гэтым лепей асцярожна, не заўсёды памагае.

Калі каню ня лепей, расціраць ізноў жывот і бакі камфорным спіртусам, або тэрпатынай і леватыву даваць што поўгадзіны.

Пасьля хваробы да работы каня адразу не брацъ — аўса не даваць, ані канюшыны — найлепш толькі мурожнага сена. На другі дзень можна працаваць, але памаленьку.

*Лебёдка.* Г. Іваноуская.

# Як выкладаць скаціну.

На малых селянскіх гаспадарках часта густа гаспадару прыходзіцца самому выкладаць кнуроў, бараноў, а бычкоў і жарэбчыкоў, даюць выкладаць канавалом. Само сабой, што лепей за ўсё калі робіць гэта практычны вэтэрынарны доктар, або фэльчэр, але калі німа змогі мець доктара а трэба гэта зрабіць або самому гаспадару, або наняць канавала, то прынамсі трэба паддбаць, каб гэта работа была зроблена акуратна.

Выкладаць скаціну трэба у тым часе калі німа сьпекі і мух. Выбіраць для гэтаго трэба ясны і ціхі дзень, калі не бывае вялікаго ветру; класьці скаціну трэба на мяккую чыстую салому, прыкрытую чыстым радном і рабіць гэта не сярод панадворку, а недзе у зацішку; у пуні, ці у таку. Каб не зрабіць скаціне якой шкоды калі яе будуць валіць, трэба з вечэра не даваць ей есці, каб быў пусты жывот. Далей трэба пілнавацца, каб той хто будзе выкладаць вымыў добра сабе рукі ў цёплай вадзе з мылам, каб увесь струмэнт быў вымыты у кіпучай вадзе, каб рабілося усё, як можна чысьцэй.

Выкладаць скаціны нельга калі яна хоць крыху хвора, або калі у гаспадарцы, ці дзе блізка у ваколіцы бываюць пошэстные хваробы.

Калі ужо скаціну вылажылі яе не можна бряць на работу: даваць ей толькі добраго, смачнага корму і пілнаваць, каб у яе як найхутчэй загаілася рана. Дзеля гэтаго рану трэба раз а то і другі у дзень прамываць растворам крэоліны (бярэцца адну гарбатню ложэчку на шклянку вады), пасьля змазываць, гэтак сама, крэолінавай мазяй. А калі часам рана доўга ня будзе гаіцца, або скаціне дрэнна будзе (перэстане есьці, будзе маркотная, вушы будуць гарачые) то канечна трэба парадзіцца вэтэрынара, бо скаціна можэ пасьці.

Д.

# Работы на восень.

**У пчэльніку.** Пры нашых вострых зімах пчэляру не мала бывае клопату, як усьцерагчы свае пчолы ад марозоў. Хаваюць, праўда, іх у будыніну, але ня ў кожнаго хватае на гэта памяшчэньня, дый пад стрэхай—у цеснаце цяжкая вайна з мышамі. А ёсць на гэта лацвейшая рада.

На поў аршына ўкруг вульля забіваюць калы; на вяршкоў пяць павінны яны тырчэць вышэй вульля. Назграбаўшы сухіх лістоў, туга засыпаюць імі ўвесь вулей (з бакоў і зьверху паміж калоў) і палажыўшы на верх якіе колечы кавалкі дошчак, трэба добра націснуць каменьнямі, каб вецер не рваў лістоў. Для лёткі трэба зрабіць прадушыну з дошчэчэк такой даўжыні, каб яна на колькі цалёў выставала с паміж лістоў на двор. Калі вульлі стаялі на самай зямлі, то іх трэба сперша крыху падняць і паставіць на падкладках, каб пад іспод можна было насыпаць кастры і дробна пасеканых яловых лапак, тады мышы ніколі не завядуцца. Зімой—мяцеліцямі, на гэтак акутаные вульлі, найчасьцей наганяе гурбы сьнегу; але гэта не бяда: пчолам будзе ешчэ цяплей, толькі трэба пільнаваць, каб прадушына да лёткі заўсёды была чыстая.

* * *

**У садзе**. Хто перэд зімой беліць свой сад вапнай, хай добра ўважае, каб захляпаць пабелай усе шчэліны, каторых німала бывае на старых дрэвах. Дзе кара атстае, абрэзаць сперша, а пасьля бяліць бо зьверху папэцкаеш, а с пад кары на вясну ўсё роўна павылазіць брыдасць, бо яе найболей бывае у шчэлінах і пад карой.

Прышчэпы, а нават старэйшые дрэвы, ў каторых кара гладкая, малажавая—абвязаць ад зайцоў. Найскарэй і найлацьвей абвязываць кулявой саломай. Толькі салому ня трэба ставіць на зямлю, а на корх ад яе і ў круг дрэва, калі ёсць трава—абарваць, каб мышы не завадзіліся. Абвязываць трэба аж да кароны дрэва (дзе пачынаюць расходзіцца сукі); калі салома кароткая—надтачыць. Пярэвяслоў не жалець — даць па 3 — 4 на дрэва, каб туга было ўвязано. Хто шкадуе зайцу і галінак з дрэва, хай купе ў аптэчным складзе на колькі капеек нафталіны, добра засыпе ім кавалак саланіны (калі саланіна старая, дый сьмярдзючая — ешчэ лепш), і як нацягне гэтаго паху—мазаць галінкі,—заяц ані дакранецца. Калі мазка ад вялікай адлігі, ці абліванi аблезе,—трэба ізноў памазаць.

**Гаспадар**.

---

# АТКАЗЫ РЭДАКЦЫІ.

*Падпішчыку* А. З. **Як звясьці мох і лішаі на фруктовых дрэвах?** На гэта ёсць колькі спосабоў:

1) На вядро вады бяруць 6 ф. попелу з дрэва, 1 ф. солі 1 ф. простаго мыла; мешаніну гэту вараць да таго часу пакуль не разварыцца мыла. Калі мешеніна астыгне, уліваюць чарку тэрпатыны (скіпідару) і гэтым мажуць пень і суччa пакрытые мохам і лішаямі. Мох і лішаі засыхаюць і, самі сабой адвальваюцца. Кара пасьля гэтаго мае выгляд сьвежы, здаровы. Во-

сеньню гэту работу можна рабіць як ужо ападуць лісьця, а вясной пакуль ешчэ не распусьціліся пучкі.

2) Добра спырсківаць пры помачы сікаўкі дрэвы вось гэткай мешанінай: 6 ф. меднаго купарвасу, 4 ф. вапны на 4 вядры вады. Гэтак сама спырсківаць трэба пакуль не распусьціліся пучкі.

*Падпішчыку № 450.* **Як бараніць жывёлу ад мух і аваднёу летам?** Вы радзіце націраць жывёл палынам; якраз аб гэтым пішэ і расейскі сельска-гаспадарскі месячнік „Хуторъ“, адзін гаспадар там вось што пішэ:

„Просты і практычны спосаб каторы я сам выпробаваў сваей практыкай вось які:

Авадні і мухі у вялікім чысьле паяўляюцца, асабліва у часе красаваньня жыта і зазвычай пад вечэр страшэнна мучаючы жывёлу.

Дзеля барацьбы з гэтымі апрыкронымі мучыцелямі жывёлы трэба вось што рабіць: у якую нєбудзь вялікую пасудзіну набраць палыну, абварыць варам, так каб вада пакрыла увесь палын і даць пастаяць 3—4 гадзіны. Калі раніцай абціраць гэтым палынавым жлуктам скаціну, то можна быць пэўным, што ні адна мошка не сядзе на жывёлу. Абціраць больш аднаго раза ў дзень ня трэба“.

З гэтаго відаць, што ваш спосаб і практычны і ўжо выпробаваны.

*Падпішчыку з Гродзеншчыны.* **Ці трэба забіваць ласак?** Ласкі шкоды гаспадару ня робяць, а дзеля гэтаго і забіваць іх німа зашто; наадварот ласкі бароняць збожжэ ад мышэй і лепей чым каты выганяюць з будынкоў мышэй. Адно толькі, што ласкі часам унаджываюцца да жывёлы, асабліва да коней і бегаючы па іх страшэнна замучываюць. У нас кажуць, што гэта чорт каня заежджывае, але калі раз другі намазаць каня чэснаком то ласкі больш ня будуць мучыць каней. Яны гэтаго паху ня любяць. **Крапіва на корм курам.** Крапіву радзяць даваць у корм курам; ад прымешкі яе куры пачынаюць раней нясьціся. Адна наша супрацоўніца раіць гэтак рабіць: „У позную восень падмёрзшые калівы крапівы жаць і павязаўшы у пучкі павесіць у курніку, верхам у ніз, так, каб куры лёгка яе маглі з зямлі даставаць. Куры прагавіта накідаюцца на крапіву і скубуць як лісьця, так і насеньне“. Калі куры зімуюць у хаці, то крапіву можна нажаўшы злажыць на запас на хаці, а зімой уносіць па пучку і даваць курам аскубываць. **Гусакоу пад вясну дужа добра меняць с суседзямі,** ад гэтаго бывае пасьля сільнейшае пакаленьне.



Рэдактар-Выдавец **А. Уласоу.** Друкарня „Зніч“ Вільня

# Цэны на збожжэ у Вільні.

| | |
|---|---|
| Жыта мейсцовае с фурманак . . . . . . . . . | 96.— 98 к. |
| „ „ вагонамі . . . . . . . . . | 1.00.—1.02 „ |
| Авёс мейсцовы . . . . . . . . . . . . . . . | 85.— 95 „ |
| „ расейскі . . . . . . . . . . . . . . . | 95.—1.05 „ |
| Ячмень мейсцовы . . . . . . . . . . . . . | 95.—1.05 „ |
| Вотрыны жытніе . . . . . . . . . . . . . . | 75 „ |
| „ ячменные . . . . . . . . . . . . | 85 „ |
| „ пшанічные . . . . . . . . . . . . | 85 „ |
| Сена лугавое . . . . . . . . . . . . . . | 40.— 46 „ |
| Салома . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 28.— 30 „ |

## Цэны збожжа у Лібаве.

| | |
|---|---|
| Пшаніца . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 1.24.—1.25 к. |
| Жыта . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 1.01 „ |
| Авёс . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 89 „ |
| Грэчка . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 97 „ |

## Цэны на лен.

| | |
|---|---|
| Лён найлепшы марка „G“ беркавец . . . . . . | 65 руб. |
| „ „ „ „R“ „ . . . . . . | 60 „ |
| „ сярэдні „ „H.D.“ „ . . . . . . | 54 „ |
| „ „ „ „D“ „ . . . . . . | 48 „ |
| „ звычайны „ „W“ „ . . . . . . | 40 „ |

Цэны ідуць у гару.

## Цэны на масла.

У Варшаві плацяць за масла фунтовае нясолонае

| | | |
|---|---|---|
| | I сорту . . . . . . . . . | 47—48 фун. к. |
| | II „ . . . . . . . . . | 44—45 „ „ |
| у бочках соленае | I „ . . . . . . . . . | 43—44 „ „ |
| | II „ . . . . . . . . . | 40—41 „ „ |

У Вільні плацяць за масла салёнае у бочках . . 42—44 „ „

На заграпічных рынках цэны на масла пашлі ў гару.

## Цэны на другіе прадукты у Вільні.

| | |
|---|---|
| Бульба за асьміну (18 гарнцоў) . . . . . . . | 80—90 к. |
| Буракі „ . . . . . . . . . . . . | 50—55 „ |
| Морква „ . . . . . . . . . . . . | 60—70 „ |
| Капуста за качан . . . . . . . . . . . . | 3— 5 „ |
| Яец дзесятак . . . . . . . . . . . . . | 30—35 „ |
| Сьметана кварта . . . . . . . . . . . . | 30 „ |
| Тварог „ . . . . . . . . . . . . | 14—15 „ |

P.1307